www.nv-online.info

№ 67 (4012)

28 жніўня 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Дык хто ж будзе на выбарах дастойна сапернічаць з Аляксандрам Лукашэнкам?

ВІЗІТ

## Лукашэнка ляціць у Кітай

Працоўны візіт кіраўніка Беларусі ў Кітайскую Народную Рэспубліку пройдзе 1–3 верасня. Аляксандр Лукашэнка будзе прысутнічаць на парадзе ў гонар 70-годдзя перамогі ў Другой сусветнай вайне і Народна-вызваленчай вайне кітайскага народа супраць японскай агрэсіі.

*«У ходзе візіту таксама запланаваны шэраг двухбаковых сустрэч Аляксандра Лукашэнкі з кіраўніцтвам КНР»,* – адзначылі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы. Дарэчы, як паведамляецца, кіраўнікі дзяржаў і ўрадаў больш як 30 краін свету пацвердзілі свой удзел у маючых адбыцца мерапрыемствах у сталіцы Кітая.

3 верасня па галоўнай плошчы кітайскай сталіцы – Цяньаньмэнь – пройдуць 12 тысяч салдат і афіцэраў. У складзе замежных вайскоўцаў будуць удзельнічаць падраздзяленні з Расіі, Казахстана, Беларусі, Манголіі, Кубы і іншых дзяржаў. У парадзе таксама будуць задзейнічаны больш за 200 адзінак наземнай тэхнікі і яшчэ столькі ж самалётаў.

СІТУАЦЫЯ

## Таццяна Караткевіч падняла пальчатку...



***Створана грамадская група па праверцы подпісаў, сабраных у падтрымку вылучэння Таццяны Караткевіч кандыдатам у прэзідэнты.***

Як вядома, з прапановай правесці незалежную экспертызу дакладнасці подпісаў за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Таццяны Караткевіч яшчэ ў ліпені выступіў рух «За Свабоду», які ўзначальвае кандыдат у прэзідэнты 2006 года Аляксандр Мілінкевіч. Хтосьці вырашыў, што гэта чарговыя словы, чарговая шпілька апанентаў Караткевіч, за якімі нічога канкрэтнага не адбудзецца. Аднак 24 жніўня рух "За Свабоду" адрасаваў гэту прапанову персанальна Караткевіч, абгрунтаваў гэта так: паколькі «*ў публічнай прасторы чутны настойлівыя галасы недаверу адносна рэальнай колькасці подпісаў, сабраных ініцыятыўнай групай Караткевіч»,* рух «За Свабоду» лічыць, што іх незалежная грамадская праверка стала б *«годным крокам маральнай палітыкі і спосабам паляпшэння іміджу дэмакратычных сіл».*

Таццяна Караткевіч пальчатку падняла. Заявіла, што не супраць даць копіі лістоў з сабранымі ў падтрымку яе вылучэння подпісамі. Літаральна на наступны дзень рух "За Свабоду" ініцыяваў стварэнне грамадскай групы па праверцы подпісаў Караткевіч. Адбылося нават пасяджэнне з удзелам першага намесніка старшыні руху «За Свабоду» **Юрыя Губарэвіча**, старшыні Партыі БНФ **Аляксея Янукевіча**, сустаршыні аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» (БХД) **Паўла Севярынца** і прадстаўніка кампаніі «Наш дом» **Валерыя Шчукіна.**

У склад грамадскай групы ўвайшлі 15 членаў гэтых арганізацый, а каардынатарам групы абраны прадстаўнік руху «За Свабоду» **Юрый Меляшкевіч.**

*«Усе гэтыя структуры маюць дастаткова сур'ёзны вопыт збору подпісаў. Пры гэтым «За Свабоду», БХД і «Наш дом» на выбарах гэтага года не вылучалі і не падтрымлівалі нікога з прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта, займаюць нейтральнае становішча да ўсіх з іх»,* – адзначыў Губарэвіч.

На пасяджэнні таксама зацверджана методыка праверкі подпісаў, дакладнае выкананне якой, паводле яго слоў, «можа даць адказ на пытанне, сапраўдныя подпісы ці не».

Са слоў Губарэвіча, на пасяджэнне быў запрошаны кіраўнік штаба Караткевіч **Андрэй Дзмітрыеў**. *"Аднак ні ён сам, ні яго прадстаўнік на пасяджэнні не былі,* – заўважыў Губарэвіч. – *Хоць у цэлым я лічу, што такая работа павінна праводзіцца ў цеснай каардынацыі з кіраўніком штаба або яго прадстаўніком».*

ДАСЛОЎНА

*Андрэй ДЗМІТРЫЕЎ:*

### «Чаму б у такім разе не праверыць подпісы ўсіх?.."

Кіраўнік штаба Таццяны Караткевіч Андрэй Дзмітрыеў кажа, што толькі «за», калі будзе створана незалежная камісія па праверцы сабраных подпісаў прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду.

– Але маё меркаванне наконт усёй гэтай ініцыятывы: якая яе мэта? Чаму ствараецца камісія па праверцы подпісаў Караткевіч? Чаму б у такім разе не праверыць подпісы ўсіх прэтэндэнтаў, у тым ліку і Лукашэнкі?

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

У ТЭМУ

### Ярмошына пашкадавала «бабу» Караткевіч

– Гэта несусветнае глупства, і ўвогуле гэта – парушэнне закона, – пракаментавала ўчора журналістам старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына ініцыятыву шэрагу апазіцыйных палітыкаў стварыць праверку здадзеных прэтэндэнтамі ў прэзідэнты подпісаў. – Пры жаданні можна пракурора спытацца, ці няма тут перавышэння якіх паўнамоцтваў. Людзі замахваюцца на тое, што замацавана Канстытуцыяй, – што выбары ў нас у краіне праводзяць выбарчыя камісіі. А тут дэманстратыўна паказваюць: не, ёсць яшчэ нейкія арганізацыі, якія маюць права падмяняць выбарчыя камісіі. І таму – хай не жартуюць так!

Мне, шчыра кажучы, яе (Таццяну Караткевіч) шкада. Я спадзяюся, што гэтая баба выстаіць і яны яе не зацкуюць.

### Хто будзе лічыць бюлетэні?

Старшыня Цэнтрвыбаркама Лідзія Ярмошына расказала, хто ўвайшоў у склад участковых камісій, якія будуць лічыць галасы выбаршчыкаў на прэзідэнцкіх выбарах.

Усяго ў склад участковых камісій увайшло каля 70 тысяч чалавек. Больш за 29 тысяч з іх – гэта прадстаўнікі «Белай Русі».

Што тычыцца грамадскіх арганізацый і палітычных партый апазіцыйнай накіраванасці – то ад іх у склад камісій уключылі толькі 32 чалавекі. Паводле паведамлення Лідзіі Ярмошынай, ад партыі «Справядлівы свет» – 21, ад Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада» – 3, Партыі БНФ – 2, АГП – 4, БНФ «Адраджэнне» – 1. Усяго апазіцыя вылучала толькі 516 чалавек.



### «Мы прыехалі сюды без прадузятасці»

*Афіцыйнае назіранне за прэзідэнцкімі выбарамі ў Беларусі распачала місія БДІПЧ АБСЕ*

За выбарчай кампаніяй будуць назіраць 11 экспертаў Бюро дэмакратычных інстытутаў і правоў чалавека. У бліжэйшы панядзелак да іх далучацца 36 доўгатэрміновых назіральнікаў, растлумачыў на прэс-канферэнцыі намеснік кіраўніка місіі **Харальд Япсен.** За некалькі дзён да пачатку галасавання ў Беларусь прыедуць каля 400 кароткатэрміновых назіральнікаў. Супольна яны і падрыхтуюць выніковую справаздачу.

Паводле слоў Япсена, эксперты БДІПЧ будуць вызначаць адпаведнасць выбарчай кампаніі абавязацельствам Беларусі ў рамках АБСЕ, стандартам дэмакратычных выбараў, а таксама нацыянальнаму заканадаўству. Але, дадаў кіраўнік місіі – французскі дыпламат **Жак Фор**, неабходна, каб і беларускае выбарчае заканадаўства адпавядала міжнародным стандартам.

Журналісты пацікавіліся, як місія ацэньвае нядаўняе рашэнне Аляксандра Лукашэнкі аб вызваленні Мікалая Статкевіча і яшчэ пяці палітвязняў, Япсен адказаў, што назіральнікі працуюць на аснове метадалогіі АБСЕ, якая прадугледжвае неўмяшанне ў выбарчы працэс.

*«Гэта азначае, што мы прыехалі сюды без прадузятасці,* – растлумачыў ён. – *Калі спадар Статкевіч будзе ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі ў нейкай якасці – даверанай асобы кагосьці з кандыдатаў або ў іншай, то за гэтым мы таксама будзем назіраць».*

Адказваючы на пытанне, ці можа на ацэнку місіі паўплываць з'яўленне новых палітзняволеных у перыяд выбарчай кампаніі, Япсен заявіў: *«Хоць наша місія назірае за канкрэтнымі выбарамі, дзейнасць БДІПЧ АБСЕ толькі выбарамі не абмяжоўваецца. Бюро прасочвае і сітуацыю ў краіне ў цэлым».*

СКАЗАНО!



## *Александр ЛУКАШЕНКО:*

### О курсе рубля

– Мы не будем искусственно сдерживать курс национальной валюты по отношению к другим валютам. И мы этого не делаем. Если мы начнем его сдерживать и как-то пытаться этим сдержать инфляцию, помочь чему-то (не те времена), мы опять придем к тому, что разово придется на 30 процентов девальвировать валюту.

***

– То, что сделали сейчас Казахстан и Россия, мы это сделали раньше, чтобы не сжечь золотовалютные резервы. Благо, немножко золото дорожает, у нас его, наверное, тонн под 30. Поэтому мы придерживаемся плавающего курса, чтобы пройти эти тяжелые времена.

### О ценах

– Мы посматриваем на цены. Если начнем держать, уйдут товары с рынка. Да. Есть некая волатильность, движение. Я вам клянусь, что мы ничего не делаем, чтобы сдерживать или же усиливать или ослаблять национальную валюту. Будет больше валюты – будет ниже курс, будет высокий спрос, валюты не будет – вы знаете, что будет.

***

– Давайте поживем на своем, что в наших магазинах есть, и отдохнем эти годы у себя в Беларуси. Не будем вывозить валюту. Не бегайте вы по этим обменникам. Вы создаете лишние проблемы. Искренне говорю, если раньше меня просто трясло, когда я видел изменения курсов валют, сегодня меня больше волнует другое – удержаться бы, не дестабилизировать обстановку в стране. В мире идет война. В конце концов, хотя бы эта беда нас не коснулась.

### О ситуации в стране

– Нам надо пройти этот год нормально. Посмотрим, что будет в конце года. Уверен, в следующем году мы начнем выкарабкиваться из этого положения, хотя мы не обвалились так, как другие.

***

– Вы видите, наш ближайший партнер – Казахстан, по-моему, уже третий раз за последние два года обвалил, разово девальвировал свою валюту. И это страна, которая сидит на полезных ископаемых. Вы видите, что происходит в России: за последние два года три раза обвалилась валюта и, казалось бы, конца краю нет, но пошла какая-то стабилизация.

### О пенсионном возрасте

– Мы вообще к этому вопросу не подходили. Я вам честно сказал, что нам пенсионный возраст давно надо было увеличить.

*(А.Лукашенко отметил, что в Беларуси невысокие пенсии, поскольку на одного пенсионера приходится слишком мало работающих граждан. –* ***Ред.****).*

– То есть мы перегружаем своих детей. Если вы хотите, чтобы в стране было столько пенсионеров на столько работающих – ради Бога, но пенсия будет меньше. Мое мнение вы знаете. Но вы этого не хотите.

**(Из выступления А.Г.Лукашенко перед работниками ОАО «Барановичское производственное хлопчатобумажное объединение».)**

### От редакции

Поскольку график сдачи газеты в печать не позволяет нам подготовить комментарий к высказываниям А.Г.Лукашенко, то оставляем эту возможность за вами, уважаемые читатели. Ваши мнения, предложения, замечания мы готовы представить на страницах следующих номеров «Народной Воли».

КАДРЫ

### Ігар Поршнеў узначаліў кінастудыю «Беларусьфільм"

Учора Ігар Поршнеў прызначаны генеральным дырэктарам рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Нацыянальная кінастудыя «Беларусьфільм".

Эксперты называюць гэта прызначэнне менеджарскім.

Былы кіраўнік "Беларусьфільма" **Алег Сільвановіч** папрасіўся ў адстаўку яшчэ ў лютым гэтага года. Аднак тады яго з пасады не знялі. Летам у Сільвановіча заканчваўся кантракт, і, як цяпер высветлілася, падаўжаць яго Міністэрства культуры не стала.

– Ігар Поршнеў – вядомы прадзюсар, – кажа кінакрытык Ала Бабкова. – Ён многа працаваў з масквічамі, выпусціў нямала карцін, яго бацька яшчэ ў савецкія часы быў дырэктарам стужак... На мой погляд, гэта менеджарскае прызначэнне. Кіраваў студыяй закляты ідэолаг Замяталін, прафесійны кіназнаўца Сільвановіч (хаця ў яго і была камерцыйная жылка), а зараз вось паспрабуе дапамагчы студыі Поршнеў...

Дарэчы, Аляксандр Лукашэнка прызначыў **Юрыя Амбразевіча** пастаянным прадстаўніком Рэспублікі Беларусь пры аддзяленні Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і ў іншых міжнародных арганізацыях у Жэневе (Швейцарская Канфедэрацыя).

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ДАРЭЧЫ

Учора стала вядома, што намеснікам старшыні Нацыянальнага банка прызначаны **Дзмітрый КАЛЕЧЫЦ.**

Беларуская дзяржаўная акадэмія авіяцыі займела новага рэктара. Ім стаў **Рыгор ЛАЎШЭНКА.**

ФУТБОЛ



### БАТЭ ўжо зарабіў у Лізе чэмпіёнаў 14 мільёнаў еўра

*Барысаўскі футбольны клуб пяты раз у сваёй гісторыі выйшаў у групавы раўнд Лігі чэмпіёнаў.*

У матчы плэй-оф у адказ кваліфікацыі гэтага турніру беларуская каманда прайграла ў гасцях сербскаму «Партызану» – 1:2, але па суме дзвюх гульняў *(першую сустрэчу выйгралі барысаўчане з лікам 1:0. –* **Аўт.**) выйшла ў наступны этап.

Гэта, дарэчы, не толькі прэстыж, але і добрая фінансавая падмога. За выхад у групавую стадыю барысаўскі клуб зарабіў як мінімум 14 мільёнаў еўра. Далей у шасці матчах таксама ёсць магчымасць істотна палепшыць фінансавае становішча клуба. За кожную перамогу на групавым этапе УЕФА заплаціць 1,5 мільёна еўра, за нічыю – паўмільёна.

Да слова, упершыню ў групавым турніры Лігі чэмпіёнаў выступяць адразу шэсць клубаў, якія прадстаўляюць рэспублікі былога СССР. Гэта ўкраінскія «Дынама» і «Шахцёр», расійскія «Зенит» і ЦСКА, беларускі БАТЭ і казахстанская «Астана».

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**P.S.** *Учора вечарам па выніках жараб'ёўкі БАТЭ даведаўся пра сваіх сапернікаў па групе, але графік выхаду газеты не дазволіў паведаміць гэтую інфармацыю ў сённяшнім нумары. Сачыце за навінамі на нашым сайце – nv-online.info.*

ПАД ГРАДУСАМ



### Лета працягваецца

*Цёплае надвор'е захаваецца ў Беларусі да сярэдзіны наступнага тыдня, паведамілі беларускія сіноптыкі.*

«Амаль увесь бягучы тыдзень у Беларусі назіралася вельмі цёплае і сухое надвор'е. Толькі ў сераду франтальны раздзел з Польшчы вызначаў кароткачасовыя дажджы і невялікае зніжэнне тэмпературы паветра», – падкрэсліла начальнік сектара кароткатэрміновых прагнозаў Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі, кантролі радыеактыўнага забруджвання і маніторынгу навакольнага асяроддзя **Людміла Парашчук.**

Сёння, 28 жніўня, тэмпература паветра ноччу плюс 11–17 градусаў, месцамі ад 8 да 10 цяпла, удзень будзе 27–33 вышэй за нуль.

У суботу 29 жніўня ноччу і раніцай месцамі па паўночным усходзе будуць невялікія кароткачасовыя дажджы. Удзень істотных ападкаў не чакаецца. Тэмпература паветра ноччу плюс 10–17, па паўднёвым усходзе да 19 цяпла, удзень будзе ад 20 да 27 вышэй за нуль.

У нядзелю 30 жніўня ападкаў не чакаецца. Тэмпература паветра ноччу 7–14 цяпла, днём – ад плюс 20 да 27 градусаў, па паўднёвым захадзе да 30 цяпла.

«На пачатку наступнага тыдня надвор'е ў Беларусі абумовяць малаактыўныя атмасферныя франты. У асобных раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы», – расказала Людміла Парашчук.

У панядзелак і аўторак ноччу плюс 10–17 градусаў, удзень – ад 20 да 27 цяпла, па паўднёвым захадзе – да плюс 32.

З НАГОДЫ

## З-за чужой гульні...

Амаль два тыдні прайшло з таго часу, як затрыманы былы выконваючы абавязкі генеральнага дырэктара хакейнага мінскага "Дынама" Уладзімір Беражкоў.

Напачатку Следчы камітэт заявіў, што падазрае Беражкова ў раскраданні *"не менш як* ***45 мільёнаў рублёў****".* Прыкладна праз тыдзень сума павялічылася ў разы, і на свет Божы з'явілася ўжо новае паведамленне Следчага камітэта: *"Супрацоўнікамі міліцыі выяўлены факты крадзяжу шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненага генеральным менеджарам Уладзімірам Беражковым. Апошні на працягу года сістэматычна прысвойваў грашовыя сродкі хакейнага клуба і распараджаўся імі па сваім меркаванні. У цяперашні час папярэдні памер скрадзенага Уладзімірам Беражковым ацэньваецца ў суму не менш за* ***адзін мільярд рублёў****. Канчатковы памер шкоды, прычыненай службовай асобай, вызначаецца».*

А ўчора прадстаўнік Следчага камітэта заявіў журналістам, што, маўляў, Беражкоў прызнаўся і гатовы папрасіць Лукашэнку аб памілаванні.

Хто такі Валодзя Беражкоў? Працаваў у Федэрацыі хакея, калісьці сам гуляў у гэтую гульню. Таленавіты журналіст, былы галоўны рэдактар газеты "Прессбол". Вядомы як змагар з карупцыяй у хакеі.

*"Беларускі хакей – гэта балоцішча, пранізанае нянавісцю*, – распавядаў ён на старонках свайго выдання. – *Дзе ўсе адзін аднаму жадаюць няўдачы. Вакол антаганізм і эгаізм. Яны з'яўляюцца дамінантай у адносінах паміж клубамі".*

Тым больш было нечакана, калі пасля 19 гадоў рэдактарства Уладзімір Беражкоў вырашыў перайсці на пасаду генеральнага менеджара мінскага "Дынама". Таго самага "Дынама", якое ён так бязлітасна крытыкаваў за нерацыянальнае расходаванне сродкаў.

*"Я стаміўся ў газеце",* – сказаў ён мне падчас нейкай нашай сустрэчы. Але многія не разумелі такі крок і папярэджвалі: "Навошта лезеш у гэтае "балоцішча"?"

Менеджар Беражкоў паказаў сябе ў добрым сэнсе слова ва ўсёй красе. Каманда зайграла па-новаму, балельшчык ізноў пайшоў на арэну. Бюджэт быццам бы скарацілі, грошы сэканомілі, Беражкоў увайшоў у склад праўлення Кантынентальнай хакейнай лігі.

Хто мог падумаць, што Уладзімір Беражкоў не паспее ўнікнуць у новую работу, як апынецца за кратамі?

Я не ведаю, у які бок павернецца справа. Вельмі шмат момантаў мы, напэўна, усё ж такі не ведаем. Але асабіста я не веру ў вінаватасць Валодзі. А калі ёсць нейкая яго віна, то не наўмысная. Яго маглі проста падставіць.

Мне абсалютна зразумела іншае – Уладзімір Беражкоў залез не на сваё поле. Не яго гэта гульня. Улічваючы, колькі ў Беражкова было ворагаў, клуб "Дынама" стаў самай сапраўднай пасткай для яго. У клубе, дзе бюджэт – мільёны долараў, зачапіцца можна за што заўгодна. Ды і законы ў такіх умовах – воўчыя. Прабягуць, растопчуць і забудуцца.

Сёння, дарэчы, у мінскім клубе, калі заходзіць гаворка пра таго ж Беражкова, у супрацоўнікаў быццам мову аднімае. Як быццам пахавалі ўжо чалавека. Гэта таксама правілы іх гульні.

У рамане Георгія Уладзімава "Генерал і яго армія" ёсць такія радкі: *"Уявіце, што гуляеце ў шахматы, і ваша пешка ступае на апошняе поле. Ваш сапернік абавязаны вам вярнуць фярзя. А ён бярэ ды гэтым фярзём вас па галаве. Аказваецца, ён увёў новае правіла, толькі вас не папярэдзіў. І якая тут абарона? А ніякай. Не садзіцца гуляць у такія гульні, дзе правілы змяняюцца з кожным днём. Як толькі селі, Гасподзь Бог ужо не на вашым баку... Вы па родзе сваёй дзейнасці гуляеце ў гэтыя гульні, так што павінны быць гатовы да ўсяго. Няхай вас суцешыць, што нашы горшыя чаканні не спраўджваюцца. Ці не заўсёды спраўджваюцца".*

Будзем спадзявацца, што і ў гэтай справе нашы горшыя чаканні не спраўдзяцца. Трымайся, Пятровіч! І вяртайся ў сваю гульню. Па нармальных правілах.



**Алесь СІВЫ.**

